АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

11 кастрычніка 2000 года
Цана 90 рублёў

№ 41 (2703)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

АКТУАЛЬНА

## ЦІ СТАНУЦЬ ВЫБАРЫ ВЫБАРАМ?

Да выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу застаюцца лічаныя дні. Поўным ходам ідзе самы адказны перыяд выбарчай кампаніі — агітацыйны.

З 769 вылучэнцаў адмову ў рэгістрацыі атрымалі 218: у асноўным з-за недакладнасцей у падпісных лістах і дэкларацыях аб даходах. 146 прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат вырашылі абскардзіць такое рашэнне акруговых выбарчых камісій у Цэнтрвыбаркаме і далей у судзе. Толькі 23 кандыдатам удалося даказаць, што акруговыя камісіі памыліліся. Такім чынам, цяпер зарэгістраваны 574 кандыдаты ў дэпутаты.

Найбольш паспяхова па выніках рэгістрацыі выглядае Ліберальна-дэмакратычная партыя Беларусі (89 кандыдатаў). Адпаведна 69 і 10 прадстаўнікоў зарэгістравана ад Партыі камуністаў Беларускай і ад Камуністычнай партыі Беларусі. Але лідэр ЛДПБ Сяргей Гайдукевіч прыняў рашэнне аб скліканні пасяджэння вышэйшага савета партыі, дзе плануецца разгледзець пытанне аб мэтазгоднасці далейшага ўдзелу партыі ў парламенцкіх выбарах. Выклікана гэта тым, што не прайшлі рэгістрацыю 30 чалавек, вылучаных кандыдатамі ў дэпутаты ад ЛДПБ.

З ліку тых, хто ішоў на выбары пад апазіцыйным лозунгам, у канчатковым выніку не зарэгістравана больш трэці. Сярод іх і тыя, хто меў вельмі высокія шансы на перамогу.

Другая частка апазіцыі разгарнула кампанію "Байкот-2000". Яны заклікаюць грамадзян не ўдзельнічаць у "палітычным фарсе", не спадзеючыся на справядлівыя, дэмакратычныя выбары. З гэтай прычыны старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына засяродзіла ўвагу на вялікіх дзяржаўных выдатках на правядзенне выбараў і выказала меркаванне: "...калі характар байкоту набывае такія рамкі, можна гаварыць аб антыдзяржаўнай агітацыі".

Тым часам Цэнтрвыбаркам пашырыўся амаль удвая. Да 12 яго ранейшых членаў дэкрэтам Прэзідэнта далучаны 9 прадстаўнікоў розных палітычных аб'яднанняў з правам дарадчага голасу. Гэта рашэнне прынята ў выніку настойлівага садзейнічання з боку міжнародных арганізацый. Новыя члены надзелены правам уносіць прапановы ў парадак дня пасяджэння, выступаць і задаваць пытанні, знаёміцца з матэрыяламі. Аднак яны не могуць удзельнічаць у праверках і галасаванні, якія праводзяцца ЦВК. Многія апазіцыянеры марна спрабавалі дабіцца ўключэння сваіх прадстаўнікоў у склад участковых камісій.

Але, па словах кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча, у Беларусі створаны роўныя ўмовы па вылучэнню кандыдатаў і правядзенню імі агітацыйнай кампаніі. Кожнаму кандыдату ў дэпутаты на аплату расходаў па вырабу агітацыйных плакатаў выдзелена з дзяржбюджэту па 50 мінімальных заработных плат, а гэта 130 000 рублёў. (Зараз 1 000 рублёў прыблізна раўняецца 1 долару ЗША).

У лік афіцыйна прызнаных кандыдатаў уваходзяць прадстаўнікі прамысловага сектара, работнікі дзяржаўных органаў, культуры, адукацыі, аграрыі, журналісты, эканамісты, юрысты. 132 чалавекі, маладзейшыя за 40 гадоў, 226 кандыдатаў — 41—50-гадовыя і толькі 159 — старэйшыя за 51 год. Так што, калі выбары адбудуцца, новая Палата прадстаўнікоў будзе маладзейшай за папярэднюю.

Сёння прадстаўнікі ўлады і кандыдаты ў дэпутаты ўпэўнены, што выбары адбудуцца. Апазіцыя, у сваю чаргу, верыць, што народ падтрымае яе ініцыятыву і акцыя "Байкот-2000" прынясе чаканы вынік. На чыім баку праўда, стане зразумелым ужо 15 кастрычніка.

**Павел САМЕЦ.**

АЛІМПІЙЦЫ



**Нагадаем, што залатымі прызёрамі сталі Кацярына Карстэн (акадэмічная грэбля), Эліна Зверава (кіданне дыска), Яніна Карольчык (штурханне ядра).**

**Сцвярджаецца, што поспеху садзейнічаў прафесійны падыход да падрыхтоўкі алімпійскай зборнай новага міністра спорту Яўгена Ворсіна.**

**Наперадзе чарговая Алімпіяда-2004 у Афінах.**

*Яніна КАРОЛЬЧЫК стала залатым прызёрам Алімпіяды ў Сіднэі ў штурханні ядра.*

**"Беларусы ў Сіднэі скокнулі вышэй галавы", — так каменціруе айчынны друк поспех сваіх алімпійцаў. І, сапраўды, зборная Беларусі выступіла лепш, чым на папярэдняй Алімпіядзе ў Атланце. Заваявала 17 медалёў: 3 залатыя, 3 сярэбраныя, 11 бронзавых. 75 беларускіх спартсменаў з 140 заваявалі месцы ў першых васьмёрках.**



*Дзмітрый ДЗЯБЕЛКА заваяваў бронзавы медаль па грэка-рымскай барацьбе ў вазе да 130 кілаграмаў.*



*Першымі віталі на роднай зямлі залатога прызёра Алімпіяды Кацярыну КАРСТЭН муж і дачка.*

*Фота БелТА.*

ПАДАРОЖЖА ПА МІНСКУ



Фота Валерыя ХАРЧАНКІ.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

РАСІЯ

Больш чвэрці стагоддзя жыву ў Расіі. Карэнная беларуска, воляю лёсу апынулася ў Яраслаўлі. Тут атрымала вышэйшую медыцынскую адукацыю і прысвяціла сваё жыццё служэнню медыцыне. Ствараючы беларускую грамадскую арганізацыю "Сяброўства", я разумела, што гэта і ёсць той рух, які няхай маленькай ручаінай, але ўвальецца ў агульнае рэчышча, назва якому Саюз. Сама роля Беларусі ў якасці "вядучага лакаматыва" ў працэсе інтэграцыі, яе імкненне стварыць раўнапраўны саюз двух брацкіх народаў надае сілы.

2 стар.

NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

## СТОП-КАДР



Першага кастрычніка на падстанцыі каля пасёлка Рось Гродзенскай вобласці адбылася цырымонія, прысвечаная пачатку транзіту праз Беларусь у Заходнюю Еўропу расійскай электраэнергіі. У цырымоніі прынялі ўдзел прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір ЯРМОШЫН (на здымку справа) і прэзідэнт РАТ АЭС Расіі Анатоль ЧУБАЙС.

Фота БелТА.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ: РАСІЯ

Пачатак на 1-й стар.

Да таго ж сёлетні фестываль "Яраслаўскія гулянні", у якім прынялі ўдзел усе дыяспары, створаныя ў вобласці, паказаў, што пра нас помняць у Беларусі і падтрымліваюць сваёй увагай. На Дзень беларускай дыяспары прыехаў фальклорны ансамбль мінскага завода "Керамін". Беларускае звонкагалоссе ў спалучэнні з нацыянальнымі строямі на сцэне, аформленай у выглядзе "сялянскай хаты", уразілі расіян. Мы ўдзячныя таксама прадстаўніку пасольства рэспублікі Беларусь у Маскве А. Глоду, які знайшоў магчымасць наведаць яраслаўскіх беларусаў у час правядзення фестывалю. На заключнай урачыстасці мэр Яраслаўля В. Валанчунас выказаў "Сяброўству" падзяку.

Нягледзячы на цяжкасці, звязаныя з адсутнасцю памяшкання, аргтэхнікі, іншыя праблемы, арганізацыя "Сяброўства" імкнецца актывізаваць сваю працу. Хочацца, каб на Радзіме ведалі, што ёсць людзі, гатовыя зрабіць усё для падняцця прэстыжу беларускай дыяспары. Гэта нашы землякі: дырэктар будаўнічага тэхнікума Н. Голуб, генеральны дырэктар АТ "Ярнафтахімбуд" В. Матросаў і іншыя спонсары, якія падтрымліваюць беларускую дыяспару.

З беларускага боку мы шчыра ўдзячныя старшыні Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей А. Білыку, яго намесніку І. Яновічу, супрацоўнікам Н. Ходар, Н. Петуховай за вялікую ўвагу і клопат пра ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, якія наведалі Мінск у час святкавання 55-годдзя Перамогі. Для іх было арганізавана наведванне мясцін баявой славы Беларусі. Як піша адзін з гэтых ветэранаў, "нас перапаўнялі пачуцці, усе былі незвычайна шчаслівыя за сённяшнюю Беларусь". Наша "Сяброўства" праводзіць карпатлівую работу па выяўленню ветэранаў, што вызвалялі Беларусь, клапоціцца, каб іх успаміны засталіся будучаму пакаленню.

У плане работы арганізацыі прадугледжана стварэнне нядзельнай школы для вывучэння беларускай мовы, традыцый; адкрыццё творчых майстэрняў народных промыслаў, архітэктуры, скульптуры, тэатральных пастановак. Зразумела, што без матэрыяльна-тэхнічнай базы тут не абысціся. Але нас абнадзейвае Пагадненне з Адміністрацыяй Яраслаўскай вобласці Расіі аб гандлёва-эканамічным і культурным супрацоўніцтве, падпісанае ў Мінску 23 чэрвеня гэтага года. У артыкуле № 1 Пагаднення гаворыцца, што бакі будуць садзейнічаць стварэнню найбольш спрыяльных умоў для развіцця дзелавога супрацоўніцтва і ўзаемадзеяння, заахвочваць развіццё прамых сувязей паміж прадпрыемствамі і арганізацыямі.

На гэтыя прамыя сувязі мы і разлічваем. Працаваць трэба сёння разам.

**Тамара ФАДЗЕЕВА,**
**старшыня Яраслаўскай рэгіянальнай грамадскай арганізацыі "Сяброўства".**

## НАФТАВІКІ



Першыя соткі метраў прабураны на унікальнай па тэхналогіі і самай глыбокай (5 350 метраў да нафтаноснага пласта) на Прыпяцкай упадзіне 1-й свідравіне Усходне-Бабіцкай плошчы. Працы вядзе брыгада буравога майстра Васіля КРЫПАКА, якога разам з памочнікамі Анатолем ДАНІЛЕНКАМ і Дзмітрыем ЛІПСКІМ вы бачыце на здымку.

Фота БелТА.

## ДЫПКУР'ЕР

У Вене прайшоў заключны раунд перагавораў па беларуска-аўстрыйскім міжурадавым пагадненні па пытанні кампенсацыйных выплат асобам, чыя прымусовая праца выкарыстоўвалася нацыянал-сацыялістычным рэжымам у гады другой сусветнай вайны.

Па выніках перагавораў быў падпісаны пратакол, у якім канстатаваны факт заканчэння працы над тэкстам пагаднення; вызначана канчатковая сума, што выдзелена Беларусі для ажыццяўлення выплат, зыходзячы з інфармацыі; пералічваюцца катэгорыі асоб, што могуць прэтэндаваць на выплаты, і гэтак далей.

Плануецца, што ў кастрычніку ў Вене адбудзецца міжнародная канферэнцыя, падчас якой будуць падпісаны двухбаковыя пагадненні паміж урадам Аўстрыі і ўрадамі Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Чэхіі.

У Швецыі адбылася бізнес-прэзентацыя Рэспублікі Беларусь, арганізатарамі якой выступілі пасольства Рэспублікі Беларусь, Міністэрства замежных спраў, Беларуская гандлёва-прамысловая палата.

Мэта данага мерапрыемства — інфармаванне дзелавых колаў Швецыі пра магчымасці інвестыцыйнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь, яе эканамічны патэнцыял, а таксама прэзентацыя беларускіх суб'ектаў гаспадарання розных галін эканомікі.

Пасольствам былі дасягнуты дамоўленасці аб арганізацыйнай падтрымцы правядзення бізнес-прэзентацыі шэрагам вядучых шведскіх эканамічных арганізацый і буйных кампаній, накшталт Экспартнага і Імпартнага Саветаў Швецыі, гандлёвых палат Стакгольма і Паўднёвай Швецыі, кампаній Bahco, Ericsson, Sweco, IKEA і гэтак далей.

## МЕРКАВАННЕ

# Сяргей ЗАКОННІКАЎ: «ЧАС ПАДЗЯЛІЎСЯ НА "ДА" І "ПАСЛЯ" ЧАРНОБЫЛЯ»

**Нарэшце на беларускай мове выйшла кніга Святланы Алексіевіч "Чарнобыльская малітва". Садзейнічаў гэтаму літаратурна-мастацкі фонд "Гронка", што створаны пры часопісе "Полымя".**

**Вось як пракаменціраваў гэты факт галоўны рэдактар "Полымя" Сяргей ЗАКОННІКАЎ:**

— Упершыню з рукапісам кнігі Святланы Алексіевіч я пазнаёміўся два гады таму, калі рэдагаваў "Чарнобыльскую малітву" для нашага часопіса. "Малітва" выйшла ў "Полымі" ў №№ 4, 5 за 1998 год. Шчырыя, балючыя маналогі герояў Алексіевіч — урачоў, ліквідатараў, іх жонак і дзяцей, проста людзей "з зоны" — мяне моцна ўразілі. Здавалася, перажытае імі, калі і можа існаваць, то толькі хіба што па-за межамі чалавечага болю.

Увогуле, лічу, што "Малітва" павінна быць у кожнай беларускай сям'і. У гэтай кнізе пісьменніца сведчыць: так, як мы жылі раней, сёння жыць немагчыма ва ўсіх планах: медыцынскім, сацыяльным, а тым больш — псіхалагічным; час падзяліўся на "да" трагедыі і "пасля" яе... Святлане Алексіевіч удалося паказаць рэзерв магчымасцей, які дапамагае чалавеку не губляць у сабе Чалавека.

Што тычыцца "Чарнобыльскай малітвы" як літаратурнага твора, то, думаю, такой дакументальна-публіцыстычнай кнігі, высокай па мастацкаму ўзроўню, шматбаковасці асэнсавання біды, у беларускай дакументалістыцы, ды і ў еўрапейскай, не было. Нездарма з творам Святланы Алексіевіч ужо пазнаёміліся ў Францыі, Японіі, Германіі, Швецыі, Фінляндыі, Расіі (усяго 16 краін).

— *Чаму ж "Чарнобыльская малітва" выйшла на беларускай мове толькі цяпер?*

— Прычыны былі, але пра гэта падрабязна гаварыць не хочацца. Тое, што кніга выйшла на беларускай мове, стала фактам. І гэта вельмі прыемна. Дарэчы, пераклад "Малітвы" — рабочая мова Святланы Алексіевіч руская — вельмі добра зрабіў пісьменнік Мікола Гіль. Але тое не азначае, што калі Алексіевіч напісала твор на рускай мове, яе нельга лічыць беларускай пісьменніцай...

Карацей, лепей проста "Чарнобыльскую малітву" ўзяць ды пачытаць. Паверце, твор будзе прачытаны імгненна, літаральна на адным дыханні...

Запісаў **Алесь МЯСНІКОЎ.**

*P. S. Напрыканцы бліц-інтэрв'ю Сяргей Законнікаў папрасіў выказаць праз газету падзяку Прадстаўніцтву ААН у Беларусі і Пасольству Нідэрландаў у Рэспубліцы Беларусь і Рэспубліцы Польшча (па лініі праграмы "Matra"), якія паспрыялі выхаду "Чарнобыльскай малітвы" на Бацькаўшчыне. Што мы і робім.*

## ДАБРАЧЫННАСЦЬ

● **Наталля СЯМАШКА,** *БелТА.*

У батанічным садзе сталіцы міжнародная арганізацыя "Надзея-экспрэс" правяла дабрачынную экалагічную акцыю "Залатая восень" па ўборцы тэрыторыі саду. У ёй прынялі ўдзел валанцёры з праграмы "Крок насустрач", школьнікі, студэнты і 10 валанцёраў на чале з прэзідэнтам дабрачыннай кампаніі "Сіці-Хоўп Інтэрнэшнл" прападобным Полам Моарам.

НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі акцыі "Залатая восень"; амерыканскія валанцёры ў батанічным садзе; мінскія студэнты на мітынгу-прывітанні.









ПРАЦЯГ БУДЗЕ...

# «ГОЛАС РАДЗІМЫ» — БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТ: ДАМОВА АБ ПАРТНЁРСТВЕ

*Пра паступленне ў Беларускі дзяржаўны універсітэт мараць многія. У ім вядзецца падрыхтоўка спецыялістаў высокай кваліфікацыі па 17 накірунках, якія адпавядаюць асноўным факультэтам. Журналістыка трымае першынство ў маладзёжным рэйтынгу будучых прафесій. Выкладчыкі факультэта імкнуцца да шматпрофільнага супрацоўніцтва з рэдакцыямі беларускіх газет і часопісаў, радыё і тэлебачаннем. Нядаўна яны ініцыравалі стварэнне філіялаў асноўных кафедраў.*

*З рэдакцыяй нашай газеты заключана пагадненне аб стварэнні філіяла кафедры "замежнай журналістыкі".*

*Сёння мы прадстаўляем нашых новых партнёраў.*



*Рэдакцыя "Г. Р." зацікавіла навукоўцаў міжнароднымі праектамі беларусаў замежжа...*

**Загадчык кафедры — Іван САЧАНКА, прафесар:**

— Наша кафедра створана ў 1984 годзе. Яе з'яўленне звязана з навучаннем на факультэце журналістыкі замежных студэнтаў больш як з 40 краін свету. З 1998 года факультэт прыступіў да падрыхтоўкі спецыялістаў новай і вельмі неабходнай для нашай дзяржавы кваліфікацыі — "журналіст-міжнароднік". Гэты фактар вызначальны ў працы калектыву: выпрацавана канцэпцыя адукацыі па гэтай спецыяльнасці: правядзенне лекцыйных, практычных, лабараторных заняткаў, праходжання практыкі.

**Алена КОНАНАВА, дацэнт:**

— Займаюся арганізацыяй практыкі студэнтаў. Будучыя журналісты павінны мець магчымасць прымяняць свае веды на справе. Нашы студэнты праходзяць практыку ў рэдакцыях розных сродкаў масавай інфармацыі Беларусі: "газетчыкі" — ад раённых і шматтыражных да цэнтральных рэспубліканскіх, "эртэшнікі" спрабуюць свае сілы на радыё і тэлебачанні.

Ідэя супрацоўніцтва з "Голасам Радзімы" ўзнікла не выпадкова. Дарогу ў гэтую рэдакцыю знайшлі самі студэнты, тут да іх адносяцца ўважліва, імкнуцца падтрымаць, развіваць творчую індывідуальнасць. Тое, што газету чытаюць за мяжой, у 48 краінах свету, вымушае студэнтаў ставіцца да выкарыстання інфармацыі больш адказна.

**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ, дацэнт:**

— Працягваючы размову пра творчасць, хачу сказаць, што толькі творчая асоба здольная распаліць іскру творчасці ў іншых. У рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" працуюць такія людзі. Лічу, што стварэнне тут філіяла кафедры будзе ўзаемакарысным.

**Ягор КОНЕЎ, выкладчык:**

— Да таго ж мы спадзяемся бачыць студэнтамі нашага факультэта вучняў беларускіх школ замежжа — чытачоў "Голасу Радзімы". Як указана ў "Правілах прыёму ў Беларускі дзяржаўны універсітэт на 2000 год", для атрымання першай вышэйшай адукацыі ў БДУ прымаюцца на конкурснай аснове на базе сярэдняй адукацыі грамадзяне Рэспублікі Беларусь і беларусы, якія пражываюць за яе межамі; грамадзяне Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі, Рэспублікі Таджыкістан; асобы, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі рэспублікі або маюць статус бежанца.

Акрамя таго, па-за конкурсам пры атрыманні станоўчых адзнак на ўступных экзаменах пры паступленні на дзённую і завочную формы навучання залічваюцца беларусы замежжа па рэкамендацыях беларускіх суполак або навучальных установаў замежжа на спецыяльна вылучаныя прыёмнай камісіяй БДУ месцы.

**Тацццяна ПРАНОВІЧ, старшы выкладчык, намеснік дэкана па творчых сувязях:**

— Магу дадаць, што сваё паступленне на факультэт журналістыкі маладым талентам можна "наблізіць" ужо зараз. Для гэтага неабходна стаць аўтарам газеты "Голас Радзімы", дасылаць у рэдакцыю свае творчыя матэрыялы, якія з'яўляюцца неабходнай умовай для паступлення на журфак.

**Іван САЧАНКА:**



*...а дэкан журфака Васіль ВАРАБ'ЁЎ узяўся садзейнічаць стварэнню старонкі "ГР" у Інтэрнэце.*

— Падкрэсліваючы плён міжнародных кантактаў, павінен прадставіць яшчэ аднаго члена кафедры — дацэнта Ірыну Толсцік, якая зараз знаходзіцца на стажыроўцы ў Германіі. Факультэт журналістыкі падтрымлівае ініцыятывы і разглядае ўсе прапановы аб супрацоўніцтве з дзяржаў блізкага і далёкага замежжа. Спадзяемся, што замежныя калегі, зацікаўленыя ў наладжванні творчых партнёрскіх адносін, стануць для нас добрымі сябрамі.

**Запісала Алена КОНАНАВА.**



*Іван САЧАНКА (другі справа) прапанаваў журналістам-практыкам далучыцца да навуковай работы.*

ЗДАРЭННІ

## БАР'ЕР ДЛЯ НЕЛЕГАЛАЎ

Польскі бок плануе ўвесці візавы рэжым для грамадзян нашай рэспублікі ў сярэдзіне 2001 года. Такім чынам знешнепалітычнае ведамства Польшчы разлічвае стварыць бар'ер для нелегальных мігрантаў. Рашэнне аб гэтым было прынята ў ходзе кансультацыі па консульскіх пытаннях паміж знешнепалітычнымі ведамствамі нашай рэспублікі і Польшчы, якая адбылася на ўзроўні начальнікаў упраўлення ў Мінску. У той жа час прадстаўнікі МІДа Польшчы згадзіліся, што немэтазгодна прымаць падобныя меры ў летні перыяд.

АФІЦЫЙНА

# О БЕЖЕНЦАХ

## ЗАКОН РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

*(17.06.1999)*

готовит предложения для утверждения Правительством Республики Беларусь перечня государств, временное нахождение в которых до прибытия в Республику Беларусь является основанием для отказа в регистрации ходатайства о признании иностранца беженцем и отказа в признании беженцем;

получает безвозмездно от юридических лиц независимо от организационно-правовых форм и форм собственности и физических лиц информацию, необходимую для осуществления проверки сведений, сообщенных иностранцем, ходатайствующим о признании его беженцем, за исключением случаев, когда законодательством Республики Беларусь предусмотрен иной порядок получения указанной информации;

содействует иностранцу, ходатайствующему о признании его беженцем или признанному беженцем, не достигшему возраста восемнадцати лет и прибывшему на территорию Республики Беларусь без сопровождения его законных представителей, в получении сведений о наличии и месте проживания его родителей либо иных законных представителей или родственников;

выносит решение о признании иностранца беженцем на основании полученных от территориальных органов по миграции документов с ходатайством о признании беженцем;

устанавливает для территориальных органов по миграции квоты регистрации ходатайств о признании иностранцев беженцами.

Решения республиканского органа государственного управления по миграции по вопросам, которые настоящим Законом и Положением о республиканском органе государственного управления по миграции, утверждаемым правительством Республики Беларусь, отнесены к его компетенции, являются обязательными для республиканских органов государственного управления Республики Беларусь, местных исполнительных и распорядительных органов, а также юридических лиц независимо от организационно-правовых форм и форм собственности и физических лиц.

*Территориальные органы по миграции:*

проводят прием иностранцев, заявивших о желании быть признанными беженцами в Республике Беларусь;

регистрируют в пределах установленных квот ходатайства иностранцев или отказывают в регистрации ходатайств иностранцев, желающих быть признанными беженцами в Республике Беларусь, на основании положений настоящего Закона;

выдают временные свидетельства о регистрации хадатайств;

выдают направления в временное поселение иностранцев, ходатайства которых о признании их беженцами зарегистрированы и которые не имеют возможности для самостоятельного поселения;

рассматривают ходатайства иностранцев о признании их беженцами;

готовят заключения по результатам рассмотрения ходатайств иностранцев о признании их беженцами для принятия решений республиканским органом государственного управления по миграции;

проводят регистрацию беженцев и членов их семей;

выдают направления для временного поселения беженцев и членов их семей, не имеющих возможности для самостоятельного поселения;

проводят ежегодную перерегистрацию беженцев;

инициируют решение об утрате статуса беженца или о лишении статуса беженца в соответствии с положениями статьи 14 настоящего Закона;

информируют органы внутренних дел о решениях, принятых органами государственного управления по вопросам беженцев: об отказе в регистрации ходатайства иностранца о признании его беженцем, о признании иностранца беженцем, об отказе в признании иностранца беженцем, о лишении иностранца статуса беженца, об утрате иностранцем статуса беженца;

направляют в установленном порядке в органы внутренних дел материалы об иностранцах, подлежащих депортации (выдворению) за пределы территории Республики Беларусь в соответствии с положениями настоящего Закона.

**Статья 6. Полномочия и взаимодействие органов государственного управления по реализации настоящего Закона**

Пограничные войска Республики Беларусь задерживают при пересечении Государственной границы Республики Беларусь в пунктах пропуска либо вне пунктов пропуска через Государственную границу Республики Беларусь иностранцев, не имеющих разрешения на въезд в Республику Беларусь, но заявивших о желании быть признанными беженцами в Республике Беларусь по обстоятельствам, предусмотренным абзацем вторым статьи 2 настоящего Закона, и в течение трех суток уведомляют об этом территориальные органы по миграции.

*Органы государственной безопасности и органы внутренних дел Республики Беларусь:*

по запросу органов государственного управления по вопросам беженцев в пределах своей компетенции представляют информацию о наличии у иностранцев, заявивших о желании быть признанными беженцами или ходатайствующих о признании их беженцами, обстоятельств, предусмотренных статьями 3 и 8 настоящего Закона;

инициируют решение об утрате статуса беженца или о лишении статуса беженца в соответствии с положениями статьи 14 настоящего Закона.

Органы внутренних дел:

проводят в случае необходимости процедуру идентификации личности в отношении иностранцев, ходатайствующих о признании их беженцами и не имеющих документов, удостоверяющих их личность;

проводят дактилоскопирование иностранцев, ходатайствующих о признании их беженцами;

оформляют и выдают иностранцам, признанным беженцами, и членам их семей виды на жительство и документы для выезда за пределы территории Республики Беларусь и въезда на территорию Республики Беларусь;

осуществляют депортацию иностранцев, в отношении которых принято окончательное решение об отказе в регистрации ходатайств о признании их беженцами, об отказе в признании беженцами, об утрате статуса беженца или о лишении статуса беженца, и членов их семей за пределы территории Республики Беларусь в соответствии с настоящим Законом, иным законодательством Республики Беларусь и (или) международными договорами Республики Беларусь.

*Министерство иностранных дел Республики Беларусь, дипломатические представительства и консульские учреждения Республики Беларусь:*

принимают участие в переговорах, подготовке документов и внесении предложений по заключению международных договоров между Республикой Беларусь и другими государствами в области вынужденной миграции;

содействуют в пределах своих полномочий выполнению требований настоящего Закона, в том числе обеспечению депортации иностранцев, получивших отказ в признании их беженцами, лишенных статуса беженца, утративших статус беженца, за пределы территории Республики Беларусь.

Працяг. Пачатак у № 40.

ПРАБЛЕМЫ, ЯКІЯ НАС ХВАЛЮЮЦЬ



# Зямлю ТРЭБА АБЕРАГАЦЬ

За штодзённымі клопатамі мы зрэдку задумваемся, дзякуючы чаму на нашай планеце існуе жыццё. Больш-менш адукаваны чалавек ведае пра "нейкі" азонавы слой, чорныя дзіры... Але, відаць, мала хто сабе ўяўляе, што Зямлю ў прамым сэнсе трэба аберагаць, адносіцца да яе па-гаспадарску. Калі ж не захочам, не атрымаецца — станем яе магільшчыкамі.

У канцы XX стагоддзя вучоныя пачалі заўважаць: наяўнасць азону ў атмасферы паступова памяншаецца. А ён жа, азонавы слой, выконвае для чалавека вельмі важную функцыю: не прапускае на Зямлю шкоднае ультрафіялетавае выпраменьванне сонца, якое "спрыяе" развіццю такой хваробы, як рак скуры, выклікае катаракту вачэй, паслабляе імунную сістэму чалавека...

Менавіта гэтай праблеме была прысвечана прэс-канферэнцыя, арганізаваная Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь.

Азонавы слой у атмасферы Зямлі, як заўважыў намеснік міністра гэтага ведамства **Анатоль Апацкі**, за апошнія тры дзесяцігоддзі паменшыўся ледзь не на дзесяць працэнтаў. Галоўная прычына — выкід у паветра азонаразбуральных рэчываў (АРР). Наяўнасць жа азону ў атмасферы і без таго вельмі малая: на дзесяць мільёнаў малекул паветра — каля трох малекул азону. Такім чынам, наспела неабходнасць выпраўляць жахлівую сітуацыю. Таму 22 сакавіка 1985 года 28 краін свету падпісалі Венскую канвенцыю аб ахове азонавага слоя. Не засталася ўбаку і тагачасная БССР.

Але простых назіранняў за навакольным асяроддзем, навуковых даследаванняў ды абмену вопытам аказалася недастаткова. Трэба было дзейнічаць, і 16 верасня 1987 года краіны — удзельніцы Венскай канвенцыі прынялі новы дакумент — Манрэальскі пратакол па рэчывах, якія разбураюць азонавы слой. На сённяшні дзень пад гэтым дакументам паставілі свае подпісы прадстаўнікі больш за 160 дзяржаў свету.

Сапраўдная работа па ахове азонавага слоя пачалася ў нашай краіне пасля атрымання Беларуссю незалежнасці: у другой палове 1993 года адбылася поўная інвентарызацыя айчынных прадпрыемстваў, што дазволіла дакладна высветліць, дзе і ў якіх аб'ёмах ужываюцца АРР. З таго часу ўся інфармацыя пра азонавы слой над Беларуссю штогод удакладняецца, а вынікі дасылаюцца ў сакратарыят Манрэальскага пратакола.

*Злосны хімікат фрэон-12 пакіне сельскую гаспадарку недзе праз 5-6 гадоў. Сёння фрэону-12 у нас каля 500 тон, а самага "калючага яшчура" — галону — 240 тон.*

На пачатку ж 1996 года Мінпрыроды ўжо прапанавала Кабінету Міністраў зацвердзіць "Рэспубліканскую праграму спынення выкарыстання АРР на Беларусі". Праграма распрацоўвалася пры актыўным удзеле дацкай фірмы COWIconsult, Беларускага навукова-даследчага цэнтра "Экалогія", у цесным супрацоўніцтве з прадпрыемствамі, якія выкарыстоўваюць у сваёй вытворчасці АРР, а таксама з Міжнародным банкам рэканструкцыі і развіцця.

Пасля зацвярджэння праграмы Кабінетам Міністраў 19 студзеня 1996 года ў яе межах быў падрыхтаваны "Праект паэтапнага спынення ўжывання АРР у Рэспубліцы Беларусь", падзелены, у сваю чаргу, на некалькі этапаў. Першы з іх ужо набліжаецца да завяршэння. Для яго рэалізацыі — шасці падпраектаў — нашай краіне 13 мая 1997 года прадастаўлены грант Глабальнага экалагічнага фонду ў памеры 6,9 мільёна долараў. Астатнія 6,7 мільёна амерыканскай валюты айчынныя прадпрыемствы павінны былі вынайсці самі. Грошы знайшлі.

Праўда, да канчатковай перамогі над азонаразбуральнымі рэчывамі яшчэ далекавата, бо поўнасцю спыніць іх выкарыстанне немагчыма: патрэбны даволі значныя сродкі. Таму, трэба думаць, злосны хімікат фрэон-12 пакіне, скажам, сельскую гаспадарку недзе праз 5-6 гадоў. Сёння фрэону-12 у нас каля 500 тон, а самага "калючага яшчура" — галону — 240 тон. Чаму калючага? Ён мае разбуральную моц у 16 разоў большую за фрэон. Дарэчы, галон выкарыстоўваецца ў сродках пажаратушэння. І гэта — галаўны боль работнікаў Мінпрыроды.

Напрыканцы размовы Анатоль Апацкі не без гонару заўважыў, што Беларусь сёння — ледзь не наперадзе ўсіх былых краін СССР. Тая ж Расія па сённяшні дзень не можа асвоіць грант, выдзелены ёй на аздараўленне вытворчасці, якая спецыялізуецца на вырабе фрэону. Калі ж згадаць, што раней Расійская Федэрацыя з'яўлялася адным з найбуйнейшых сусветных экспарцёраў гэтага хімікату, няцяжка ўявіць, колькі ў расіян наперадзе працы.

**Алесь МЯСНІКОЎ.**

# ЧАЛАВЕК САМ САБЕ ШКОДЗІЦЬ

● **Юры ВЕСЯЛКОЎСКІ**, *Англія.*

Ад пачатку індустрыяльнай рэвалюцыі (XVIII стагоддзе) дымныя коміны шматлікіх заводаў і фабрык атручвалі і атручваюць дымам не толькі арганізм чалавека, але і ўсё наваколле. Няшчасцем для людзей з'яўляюцца вулканы, якія выкідваюць лаву, шмат газаў, дыму, таксама паліва самалётаў, ракет і самаходаў. Адна частка гэтых выкідаў з дажджом ападае як атрута і нішчыць флору. Другая частка газаў падымаецца ўгару і нішчыць азонавы слой, які знаходзіцца на вышыні 15—50 кіламетраў над нашай галавой.

Гэтая азонавая плёнка абсарбіруе прамені сонца, шкодныя для жывога арганізма на нашай зямлі. У 1980 годзе даследчыкі заўважылі, што над Антарктыдай знікла 40 працэнтаў азону, патанчэў яго слой, а месцамі зрабіліся дзіркі. Адна такая дзірка ў два разы большая за абшар Еўропы. І каб такую дзірку залатаць, трэба найменш 60 гадоў часу пры ачыстцы атмасферы. Гэта вынік скаплення вышэйзгаданых газаў, дыму...

Такія з'явішчы ў прыродзе — галоўная прычына раку скуры і хваробы вачэй. Таксама шкодныя прамені сонца, якія праходзяць праз гэтыя азонавыя дзіркі, наносяць урон пасевам, дрэвам, жывёле на сушы і ў вадзе. Так што азонавая плёнка з'яўляецца вельмі важнай для захавання здароўя чалавека і прыроды на нашай планеце, і таму яе трэба ашчаджаць.

*У 1980 годзе даследчыкі заўважылі, што над Антарктыдай знікла 40 працэнтаў азону, патанчэў яго слой, а месцамі зрабіліся дзіркі. Адна такая дзірка ў два разы большая за абшар Еўропы.*

Дваццатае стагоддзе можна назваць стагоддзем хіміі. Амаль кожная хата мае сёння ў сабе нешта, што выдзяляе шкодныя рэчывы. Гэта розныя аэразолі для асабістага хатняга ўжытку. Прадукцыя хімічных заводаў стала настолькі пашыранай, што на рынку можна знайсці каля тысячы розных хімікатаў, і колькасць іх узрастае. Але людзі не ведаюць, як дзейнічае гэтая хімія на наша здароўе. Яны думаюць, што тут няма ніякай пагрозы для іхняга здароўя, акружэння.

Трэба прызнаць, што хімічная тэхналогія зрабіла многа чаго карыснага для чалавека, але нямала і шкоднага. Хімічная рэакцыя адбываецца вакол нас і ўнутры нас, яна не мае сваіх граніц. Напрыклад, штучнае ўгнаенне палёў і нішчэнне насякомых распыляльнікам з самалётаў не праходзіць незаўважана. Дождж змывае гэту хімікалію і нясе яе ў рэкі, азёры і іншыя вадаёмы, што забруджвае іх і выклікае гібель рыбы і іншых вадзяных стварэнняў. І гэта даволі часта здараецца ў шматлікіх краінах свету, калі некаторыя фабрыкі свядома спускаюць у рэкі і нават у акіяны свае хімічныя адходы і гэтым забруджваюць ваду.

Не будзем гаварыць тут пра добра вядомую трагедыю з Чарнобылем, якую шкоду прынёс ён для здароўя чалавека і экалогіі. А радыеактыўныя рэчывы з атамных электрастанцый не могуць быць знішчаны. І хоць іх запакоўваюць у шчыльныя кантэйнеры і топяць у акіянах, але ў гэтым няма ніякай гарантыі бяспекі. З часам яны знойдуць магчымасць вызваліцца з кантэйнера і дойдуць да жывога арганізма. А робяцца яшчэ тайныя біялагічныя доследы для свядомага забіцця чалавека.

І тут у многім вінаваты сам чалавек. Таму ў верасні 1987 года 165 краін свету падпісалі ў Канадзе так званы Манрэальскі пратакол, паводле якога абавязаліся скараціць выпуск непажаданых для экалогіі рэчываў.

Нешта падобнае адбылося ў снежні 1997 года ў японскім горадзе Кіота. Спаткалася там 2 200 дэлегатаў з 161 краіны свету, каб неяк змагацца з глабальным пацяпленнем, якое нясе людзям пагрозу. Пацяпленне клімату пагражае не толькі полюсам, але і горным хрыбтам Гімалаеў. Вучоны Саід Хаснэйн, які наглядае за ледавікамі, асцерагае, што калі хуткасць іх раставання не зменшыцца, то такія рэкі, як Ганг, Інд і Брахмапутра, з часам высахнуць.

У выніку такога пацяплення ўзровень вады ў акіянах павялічыцца, што пагражае шматлікім малым астравам знікненнем пад вадой. З павышэннем тэмпературы пачашчаюцца паводкі, буры, а таксама хваробы, якія перадаюцца праз ежу і ваду і выклікаюць эпідэміі і смерць. Таму ў Кіота было прапанавана, каб да 2012 года развітыя краіны скарацілі выдзяленне парніковых газаў ніжэй узроўню 1990 года на 5,2 працэнта. Але не ўсе краіны на гэта пагаджаюцца, бо трэба скараціць работу прадпрыемстваў, што пагражае беспрацоўем.

*Было прапанавана, каб да 2012 года развітыя краіны скарацілі выдзяленне парніковых газаў ніжэй узроўню 1990 года на 5,2 працэнта.*

У красавіку 2000 года спаткаліся ў Японіі міністры па справах экалогіі "вялікай васьмёркі": Вялікабрытаніі, Францыі, Канады, Нямеччыны, Італіі, Японіі, Расіі і ЗША. Але і гэтым разам нічога не было зроблена. Адмоўна выказаліся ЗША і Канада. Яны сказалі, што пратакол у Кіота ад 1997 года будзе ратыфікаваны большасцю дзяржаў у 2002 годзе.

Як падае газета "Дзі Таймс" (16 траўня 2000 года), міністр экалогіі Вялікабрытаніі Майкл Мічэр заўважае, што краіна не ўратуе сябе ад узрастаючай тэмпературы. Спатрэбіцца найменш 1,2 більёна фунтаў на працягу наступных 50-ці гадоў, каб умацаваць марскія і рачныя берагі Англіі і Валіі. А некаторыя ўсходнія раёны Англіі трэба будзе пакінуць як неэканамічныя.

У сувязі са зменай клімату прадбачацца дажджы, буры, а з імі вільгаць, шкодная для будынкаў. І каб гэта ўсё давесці да парадку, спатрэбіцца 15,5 мільёна фунтаў да 2050 года. Таксама прадбачыцца нястача пітной вады і вады для паліву агародаў, асабліва ў паўднёва-ўсходняй Англіі. Таму на пабудову новых рэзервуараў спатрэбіцца 900 мільёнаў фунтаў.

Многія з названых праблем не з'яўляюцца нечым новым, але апошнія паказчыкі і доследы патрабуюць станоўчых мер дзеля забеспячэння жыцця будучым пакаленням на нашай планеце. І ў гэтай рабоце бяруць удзел навукоўцы, прамыслоўцы, урады і звычайныя грамадзяне. Ці будзе што зроблена ў гэтым напрамку, пакажа час.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# ЗАПРАШЭННЕ Ў "АБ'ЯДНАНЫ ШЛЯХ"

**У рамках Беларускай рэспубліканскай грамадскай арганізацыі "Аб'яднаны шлях" адбылася прэзентацыя трэцяга выдання "Даведніка беларускіх грамадскіх арганізацый. Беларуская рэспубліканская грамадская арганізацыя (БРГА) "Аб'яднаны шлях" — некамерцыйная, непалітычная, недзяржаўная арганізацыя, якая працуе як Цэнтр развіцця грамадскіх аб'яднанняў з 1995 года. Асноўная мэта яе дзейнасці — садзейнічаць развіццю моцнага дабрачыннага сектара Беларусі, дапамагаючы грамадскім арганізацыям эфектыўна працаваць і заваёўваць грамадскае прызнанне.**

**Складальнікі даведніка — супрацоўнікі БРГА "Аб'яднаны шлях" Г. Глебка, А. Ліпская, Н. Станкевіч, І. Чырко, А. Шыбіцкі.**

**Падрабязней пра даведнік, яго структуру і працу над ім расказала выканаўчы дырэктар БРГА Аліцыя Шыбіцкая:**

— Даведнік утрымлівае інфармацыю на беларускай і англійскай мовах пра 1 919 грамадскіх аб'яднанняў і іх саюзы, а таксама арганізацыйныя структуры тых грамадскіх арганізацый, якія прадаставілі нам адпаведную інфармацыю, — паведаміла яна. — Прапанаванае выданне складаецца з трох частак. У першых дзвюх арганізацыі размешчаны ў алфавітным парадку па абласцях і гораду Мінску. Для зручнасці пошуку кожнай арганізацыі прысвоены нумар. У першым раздзеле прыведзены назвы грамадскіх арганізацый з указаннем асноўных накірункаў іх дзейнасці. Другі раздзел прапануе разгорнутую інфармацыю па наступнай схеме: назва арганізацыі, дата рэгістрацыі, перарэгістрацыі, статус, кантактная асоба, адрас, тэлефон, факс, адрас электроннай пошты і старонкі ў Інтэрнэце. У трэцім раздзеле прыведзены накірункі дзейнасці з указаннем нумароў тых арганізацый.

Даведнік змяшчае таксама дыяграмы размеркавання грамадскіх аб'яднанняў па рэгіёнах і накірунках дзейнасці з улікам і без уліку арганізацыйных структур. Напрыклад, адносна размеркавання па рэгіёнах больш за ўсё грамадскіх арганізацый (з улікам арганізацыйных структур) знаходзіцца ў Мінску (52,32 працэнта), затым у Гомельскай вобласці (10,27 працэнта), Брэсцкай вобласці (8,70 працэнта). Адносна размеркавання па накірунках дзейнасці (з улікам арганізацыйных структур) пераважаюць арганізацыі: сацыяльная абарона, рэабілітацыя (11,15 працэнта), спорт, адпачынак, турызм (10,49 працэнта) і адукацыя, асвета, выхаванне (8,68 працэнта). Найменшая колькасць грамадскіх арганізацый з накірункам "рэсурсы".

Спадзяемся, што даведнік дапаможа актывізаваць такі важны аспект дзейнасці, як абмен інфармацыяй, адкрые новыя перспектывы для супрацоўніцтва і партнёрства, дапаможа знайсці карысную інфармацыю беларускім і замежным недзяржаўным арганізацыям, рэсурсным цэнтрам, фондам, грантадаўцам, камерцыйным і дзяржаўным структурам і ўсім зацікаўленым асобам.

Выданне не прэтэндуе на паўнату і завершанасць спіса грамадскіх арганізацый, бо штодзённа ствараюцца і рэгіструюцца новыя аб'яднанні. Таму, калі інфармацыя пра вашу арганізацыю не была ўключана ў даведнік, просім дасылаць свае даныя. Будзем удзячныя за заўвагі, каментарыі і пажаданні.

Перад гасцямі выступіў таксама прадстаўнік Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь начальнік аддзела рэгістрацыі грамадскіх арганізацый Міхаіл Сухінін. Ён зазначыў, што ў апошні час з'яўляецца больш жаночых грамадскіх арганізацый, арганізацый экалагічнага накірунку, а таксама спартыўнага.

Спадар Сухінін выказаў удзячнасць БРГА "Аб'яднаны шлях" за яе дзейнасць, за супрацоўніцтва і за даведнік, роўнага якому няма.

Для тых, хто зацікавіўся, паведамляем адрас:

**БРГА "Аб'яднаны шлях",**
**вул. Уральская, 3—30,**
**220037, Мінск,**
**Беларусь.**
**Тэл./факс: (017) 230-32-76, 230-80-54**
**e-mail: uwb@user.unibel.by**
**http//www.uwb.unibel.by**



ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ

# САКРЭТЫ ПАСТАЎСКАГА ФЕСТЫВАЛЮ

● **Валянціна ТРАМБІЦКАЯ**, *член журы фестывалю, дацэнт кафедры народна-інструментальнай музыкі Беларускага універсітэта культуры.*

Паставы — невялікі гарадок на паўночным захадзе Беларусі — знешне мала чым адрозніваюцца ад шматлікіх іншых гарадоў, падобных да яго: плошча са скверам і помнікам Леніну ў цэнтры, тыповыя райвыканкам і універмаг, некалькі абсаджаных дрэвамі вулак з драўлянымі дамкамі. Але гэта на першы погляд. У аблічы кожнага такога гарадка абавязкова ёсць пэўная адметнасць, тое, што не згубілася з даўніны, не перабудавалася пад сучасную аднолькавасць, а наадварот, беражліва захавалася і нават аднавілася. Вось за рэчкай Мядзелкай бліснулі шпілі цудоўнага касцёла, а побач, на самым беразе ля моста, светла пафарбаваны млын, старадаўні, трохпавярховы, загадкавы. Шмат дзесяцігоддзяў стаяў ён разбураны і незапатрабаваны, а сёння тут унікальны музей — Дом рамёстваў. І краязнаўчы музей размясціўся ў старажытным доме, які таксама вабіць сваёй адметнасцю. Дарэчы, такіх пабудоў тут некалькі, складаюць яны своеасаблівы архітэктурны ансамбль у стылі барока: адмысловыя франтоны, узорныя акенцы, незвычайныя дахі.

Паставы былі заснаваны ў сярэднявеччы, а ў XVII стагоддзі ўжо зрабіліся вядомым культурным цэнтрам Рэчы Паспалітай. У той час горад быў вотчынай багатага роду Тызенгаўзенаў, якія дбалі не толькі пра ўраджайнасць палёў ды ўласны дабрабыт, але і пра духоўныя пажыткі. Была тады ў Паставах балетная школа, сімфанічны аркестр, цудоўная мастацкая галерэя, музей заалогіі.

Але не толькі свецкай культурай знакамітыя гэтыя мясціны. Існаваў на гэтай зямлі свой сакрэт, які рабіў яе адметнай і непаўторнай. З далёкай даўніны спявала Пастаўшчына ўсімі галасамі народных музычных інструментаў: скрыпак, цымбалаў, дудачак, а пазней і гармонікаў. Жыхары некаторых вёсак нават складалі сапраўдныя музычныя дынастыі. Напрыклад, вёска Груздава славілася цымбалістамі, а Варапаева — гарманістамі. Цікава, што народныя музыкі, не спадзеючыся на замежныя інструменты, самі майстравалі сабе і скрыпкі, і цымбалы, і іншыя музычныя прылады, неабходныя для вясельных ансамбляў, якія, дарэчы, славіліся далёка за межамі пастаўскага краю. Нават з Літвы і Польшчы прыходзілі запрашэнні зайграць на вяселлях. Мясцовая выканальніцкая школа дала нашай культуры нямала вядомых музыкантаў, а тутэйшы аркестр, які нарадзіўся ў 30-я гады XX стагоддзя, стаў адным з першых на Беларусі самадзейных калектываў народнай музыкі. Ён удзельнічаў у аглядах народнай творчасці яшчэ да другой сусветнай вайны. І заўсёды з вялікім поспехам.

Вось, напэўна, таму, па-вандраваўшы чатыры гады па краіне, урэшце знайшоў сябе менавіта на пастаўскай зямлі цудоўны фэст з назвай "**Звіняць цымбалы і гармонік**", які ладзіцца сёлета ўжо дзевяты раз. Культурнае асяроддзе, што склалася тут, падпітвае фестываль, надае яму трывалы фундамент, бо пастаўская публіка — сама таленавітая, а значыць і аўтарытэтная. І гэта яшчэ адзін сакрэт Пастаў.

**ПАСТАВЫ БЫЛІ ЗАСНАВАНЫ Ў СЯРЭДНЯВЕЧЧЫ, А Ў XVII СТАГОДДЗІ ЎЖО ЗРАБІЛІСЯ ВЯДОМЫМ КУЛЬТУРНЫМ ЦЭНТРАМ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ. У ТОЙ ЧАС ГОРАД БЫЎ ВОТЧЫНАЙ БАГАТАГА РОДУ ТЫЗЕНГАЎЗЕНАЎ, ЯКІЯ ДБАЛІ НЕ ТОЛЬКІ ПРА ЎРАДЖАЙНАСЦЬ ПАЛЁЎ ДЫ ЎЛАСНЫ ДАБРАБЫТ, АЛЕ І ПРА ДУХОЎНЫЯ ПАЖЫТКІ.**

Галоўнай падзеяй фестывалю, як заўсёды, быў конкурс "Хто каго?", у якім прынялі ўдзел музычныя гурты і асобныя выканаўцы. Конкурсныя праграмы вызначаліся майстэрствам, добрай культурай, рэгіянальнай адметнасцю, шырокай дэманстрацыяй беларускіх старадаўніх інструментаў. Журы нязменна на чале з прафесарам, рэктарам Беларускай акадэміі музыкі Міхасём Казінцом вызначыла пераможцаў: гурты "Рагнеда" з Заслаўя, "Радуніца" з Мазыра, "Мілавіца" з Кіраўскага раёна і дзіцячы ансамбль з Полацка "Таўкачыкі".

У кожнага з лаўрэатаў сваё творчае аблічча. "Рагнеда" спалучае традыцыю з сучасным асэнсаваннем фальклору. "Радуніца" аздабляе праграму гумарам і цікавымі знаходкамі накшталт мастацкага посвіту. "Мілавіца" кранае тэмпераментам і спеўнай культурай. "Таўкачыкі" вабяць непасрэднасцю і надзвычай арганічным выкананнем дзіцячага фальклору.

Асобныя выканаўцы таксама бліснулі майстэрствам, асабліва лаўрэаты-гарманісты Вячаслаў Пакумейка з Гродзеншчыны і Сяргей Каралёў з Заслаўя. Не разгубіліся і прыпеваньніцы: іх "смачнае" беларускае слоўца ўкладвала ад смеху ўсю залу. Але і тыя ўдзельнікі свята, што не сталі пераможцамі, упрыгожылі яго сваім талентам.

Яшчэ адзін вызначальны накірунак фестывалю — развіццё і падтрымка мясцовых рэгіянальных выканальніцкіх традыцый. Бо гэта вельмі важна: паказаць шырокую панараму ўжывання народных інструментаў, уласцівыя ім спосабы выканання і рэпертуар, які значна адрозніваецца, напрыклад, у Паазер'і і на Палессі. Таму цікавасць выклікалі многія аўтэнтычныя гурты, як, напрыклад, "Агараўскія музыкі" з сельскага Дома культуры Ганцавіцкага раёна. Цікавы рэпертуар заходняга Панямоння прадэманстраваў інструментальны гурт ансамбля "Ніва" з Верцялішак Гродзенскай вобласці, удзельнікі якога — мясцовая моладзь — імкнуцца перадаць асаблівасці музычнага фальклору сваёй мясцовасці. Беражлівымі адносінамі да традыцый вылучаецца пастаўскі ансамбль "Паазер'е", дзе і сёння іграюць на дыятанічных цымбалах і гармоніках, вырабленых мясцовымі майстрамі. Песенную і інструментальную спадчыну свайго краю цікава адраджае гурт "Грымата" са Слоніма.

Сёлетні пастаўскі фестываль з'яўляецца пятым з той пары, як стаў міжнародным. І гэты яго высокі статус — не выпадковасць. Народна-інструментальнае мастацтва нашых суседзяў з Украіны, Польшчы, Латвіі, Расіі гістарычна ўплывала на мастацтва беларускіх музыкаў. Прасачыць гэтыя ўзаемасувязі вельмі важна, тым больш сёння, калі ва ўсіх краінах значна ўзрасла цікавасць да традыцыйнага мастацтва. Таму суседзі нязменна запрашаюцца на гэты фестываль. Сёлета былі госці з Літвы — інструментальная капэла "Нямунелі" і фальклорны гурт "Стадалепе", з Расіі — квартэт "Карусель" з Пскоўшчыны і "Крывічаты" са Смаленскай вобласці, з Украіны — "Чырвона каліна" з Нежына Чарнігаўскай вобласці і трыо бандурыстак з Роўна. Дзякуючы гасцям, расквечілася фестывальная палітра лірычнай літоўскай і жартоўнай украінскай песняй, срэбным звонам пяшчотнай бандуры і салаўінымі пераліваімі сапілкі, рускімі дзіцячымі гульнёвымі карагодамі і залівістымі карункамі балалайкі і домры. І такое яднанне — яшчэ адзін сакрэт папулярнасці пастаўскага фестывалю.



Побач з адпрацаванымі традыцыямі фестываль на працягу свайго існавання пастаянна шукае нешта новае. І гэта галоўная прычына яго жыццёвасці. Так, сёлета адбылося некалькі прэм'ер. Па-першае, гэта канцэрт званавай музыкі. Выкарыстанне званоў у музычнай практыцы беларусаў мае глыбокія карані, а велізарную цікавасць да іх пацвердзіў вялікі наплыў народа на гэты канцэрт. Ладзіла званавы канцэрт Мінскае епархіяльнае ўпраўленне, а выкананне суправаджалася цікавым каментарыем з гісторыі званавай музыкі на Беларусі.

Другой прэм'ерай сёлетняга фэсту было выступленне унікальнага калектыву "Гуды" Беларускага універсітэта культуры пад кіраўніцтвам Уладзіміра Грома. Гэта ансамбль старадаўніх духавых інструментаў, у складзе якога пастухоўскія трубы, акарыны, жалейкі, валынкі, якія на Беларусі маюць назву дуда. Духавыя інструменты — найбольш багатая і разнастайная група ў традыцыйнай культуры Беларусі. І дзякуй Богу, што энтузіясты ўзяліся нарэшце яе адрадзіць. Тое, што сёння, на мяжы тысячагоддзяў, чуем мы моцныя галасы белавежскіх трубаў-волатаў, пяшчотныя напевы сціплай глінянай акарыны, голасныя акорды старадаўняй дуды, — безумоўны здабытак не толькі фестывалю, але і ўсёй нашай культуры.

Паказальна, што і тэмай штогадовай творчай лабараторыі, якая традыцыйна праходзіць у рамках фестывалю, стала "Народная музычная культура на мяжы тысячагоддзяў".

Упершыню праводзіўся на фестывалі і рок-канцэрт для моладзі. Рок-музыканты з Мінска прадставілі "Народны альбом" — стылізацыю музыкі 30-х — 40-х гадоў. А на заканчэнне начное неба расквеціў цудоўны феерверк, створаны па матывах славутага беларускага феерверкмайстра XVII стагоддзя Казіміра Семяновіча.

Скончыўся фестываль, раз'ехаліся госці, але ўспаміны пра гэтае свята доўга яшчэ будуць заставацца ў кожнага ўдзельніка. Бо, напэўна, галоўны сакрэт Пастаў: таго, хто пабываў тут, на фэсце, хаця б адзін раз, цягне сюды зноў і зноў.

**НА ЗДЫМКАХ: тэатралізаванае шэсце ўдзельнікаў фестывалю. Народны ансамбль "Мілавіца" з Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці; Ганна МАКРАВУСАВА — салістка інструментальнага квартэта Адаменскага сельскага Дома культуры Лiёзненскага раёна; ансамбль "Агараўскія музыкі" Агаравіцкага сельскага Дома культуры з Брэсцкай вобласці.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**








таму, само сабой, трэба бездакорна ўспрымаць і здзяйсняць тое, што ён скажа і зробіць... Установка ж шаноўнага Зянона Станіслававіча была на тое, што рашэнне "ЗБС "Бацькаўшчына" аб правядзенні Усебеларускага з'езда памылковае і несвоечасовае, бо спачатку беларусам на Бацькаўшчыне трэба ўзяць у свае рукі ўладу, а ўжо потым праводзіць такія абсяжныя нацыянальныя мерапрыемствы. Справа, аднак, мяркую, была мо не столькі ў такой глабальнай стратэгіі, як у пэўнай крыўдзе, што ЗБС узнікла незалежна ад БНФ і праводзіла сваю самастойную лінію. Пры гэтым лідэр нацыянальнага руху ніяк не хацеў пагадзіцца, што, хоць і паралельна, але робім мы па сутнасці адну і тую ж справу, справу абуджэння народа ад спаконвечнага сну, яго пазбаўлення ад рабскай прыніжанасці ды яднання ўсіх, хто хоча, кажучы Купалавымі словамі, "людзьмі звацца". Адмовіцца ў той час ад ідэі правядзення Усебеларускага з'езда азначала на карані падсячы і грамадскую арганізацыю, і саму ідэю яднання беларусаў свету...

Не буду тут распісваць усіх перыпетый і складанасцей. Галоўнае, што Першы з'езд беларусаў свету адбыўся. І вельмі своечасова, бо, як бачым, прайшлі гады, а абяцаная Зянонам Станіслававічам "беларуская ўлада" не толькі не здабыта, а аддалілася яшчэ на большую перспектыву, чым была тады, напярэдадні і падчас з'езда. Гэты мо самы за ўсю гісторыю прадстаўнічы і ўрачысты нацыянальны форум праходзіў у Мінску ў перапоўненай зале Вялікага дзяржаўнага тэатра оперы і балета, на ім была без малога тысяча дэлегатаў, якія фактычна прадстаўлялі ўсе кантыненты і краіны, дзе жывуць беларусы. Выступаў на ім і Зянон Пазняк — зала вітала яго ўзрушана і шчыра. Дый новае кіраўніцтва ЗБС выбіралася, ці, дакладней, прапаноўвалася з'езду са згоды лідэра БНФ, аўтарытэт якога на той час, нягледзячы на відавочныя пралікі, быў вельмі высокі.

Тое новае кіраўніцтва ўвесь час дэкларавала і падкрэслівала, што нарэшце настаў больш высокі, новы этап у дзейнасці "Бацькаўшчыны". Але жыццё паказвала, што на гэтым увесь "прагрэс" і заканчваўся. І Другі з'езд беларусаў свету быў, па сутнасці, правальным для "Бацькаўшчыны" і ні ў якое параўнанне не ідзе з Першым. Ён уяўляў сабой хутчэй Другі сход беларусаў блізкага замежжа, але без ранейшай узнёсласці і арганізаванасці. Было больш чым відавочна, што кіраўніцтва не спраўляецца са сваімі абавязкамі, што яго трэба мяняць. І з гэтым напярэдадні з'езда нібыта пагадзіўся прэзідэнт згуртавання Радзім Гарэцкі, але потым думка яго памянялася і ўсё пайшло па ўжо наезджанай каляіне: замест рэальнай работы вечныя нараканні старшыні Рады Ганны Сурмач на сваю цяжкую долю бескарыслівай патрыёткі, якой увесь час даводзіцца дзейнічаць пад уціскам улады і без належнай падтрымкі свядомых беларускіх сіл. А што рэальнага зрабіла за апошнія гады "Бацькаўшчына"? Рэальных поспехаў, на жаль, было вельмі мала. І хіба не дзіўна, што напярэдадні юбілею старшыня Рады Ганна Сурмач пакінула Бацькаўшчыну і папрасіла палітычнага прытулку ў чэшскіх уладаў, хоць яе ніхто за палітычную дзейнасць не караў і нават не дакараў. І на прэс-канферэнцыі, зладжанай Управай з нагоды 10-х угодкаў згуртавання, было так і сказана: матывы чыста асабістыя: імкненне ўладкаваць сваё жыццё...

Безумоўна, на сёння сітуацыя ў краіне куды менш спрыяльная для дзейнасці "Бацькаўшчыны", чым гэта было ў першыя гады існавання згуртавання. Але што ёсць, тое ёсць, і, хоць хочам мы гэтага ці не, а трэба, даводзіцца дзейнічаць у рэальных умовах. Бо пустымі нараканнямі справу, на жаль, не палепшыш. У гэтым сэнсе ў прыклад "Бацькаўшчыне" можна паставіць Таварыства беларускай мовы, якое з прыходам новага старшыні спадара Трусава набыло новае дыханне за кошт якраз рэальнай дзейнасці, а не заяў, дэкларацый і нараканняў. На прэс-канферэнцыі, на жаль, не адбылося колькі-небудзь глыбокага аналізу дзейнасці за мінулыя дзесяць гадоў, не выяўлены прычыны, апрача хіба што пагаршэння агульнай сітуацыі ў дзяржаве, што прывялі "ЗБС "Бацькаўшчына" да глыбокага крызісу, амаль што поўнага здранцвення. Таму і цікавасці журналістаў не было, і абмежаваліся яны адным-двума неабавязковымі пытаннямі, што датычылі пераважна таго, як жыве і чым цяпер займаецца Ганна Сурмач. Будзем спадзявацца, што над уласным лёсам кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" глыбей задумаецца на юбілейным пасяджэнні Вялікай рады, прызначаным на снежань гэтага года.

СТАСУНКІ





# ПЛАНЫ, ЯК У НАПАЛЕОНА



Каму з хлапчукоў не хацелася б хоць на імгненне перанесціся ў іншую эпоху, стаць удзельнікам вядомых падзей мінулага. Кагосьці цікавяць перыяды старажытнага Рыма або жалезных рыцараў Сярэднявечча, іншыя аддаюць перавагу сувораўска-напалеонаўскаму перыяду. Зараз жа не толькі хлапчукі з картоннымі шчытамі і драўлянымі мячамі, але і людзі розных узростаў і прафесій могуць рэалізаваць рамантычныя мары свайго юнацтва. У Беларусі звыш сотні энтузіястаў захапляюцца ваеннай даўнінай, уваходзяць у разнастайныя клубы і групы ваенна-гістарычнай рэканструкцыі.

Ваенна-гістарычны клуб Мінскага падшыпнікавага завода "Мінскі пешы полк" — пастаянны ўдзельнік гістарычных свят, і не толькі айчынных: яго ведаюць у Аўстрыі, Францыі, Італіі, а потым прыйшло запрашэнне з польскага горада Гданьска. Яно было прынята.

...Падзеі адбываліся на беразе Балтыйскага мора. Упершыню ў Польшчы іх ініцыіравалі Гданьскі інстытут культуры і еўрапейскай інтэграцыі і музей гісторыі горада. У рамках праекта "Гданьск напалеонаўскі" былі ажыўлены падзеі захопу горада французамі ў 1807 годзе і вызвалення руска-прускімі войскамі ў 1813-м.



Акрамя беларусаў, для ўдзелу ў праекце арганізатары запрасілі клубы з Францыі, Італіі, Расіі, Літвы і Латвіі. Усяго сабралася 150 уніфармістаў. З разгорнутымі сцягамі і пад барабанны бой атрады пяхоты, кавалерыі і артылерыі XIX стагоддзя рушылі парадным маршам (пад дажджом) ад Залатых варот па вуліцах старога горада.

Мэр горада правёў агляд сіл разам з ініцыятарамі ўрачыстасцей: рэктарам інстытута культуры і еўрапейскай інтэграцыі Аляксандрам Скрупінскім, доктарам універсітэта імя Каперніка Анджэем Нявpainжным, дырэктарам парку-крэпасці GRODZISKO Анджэем Рудзінскім. А госці і гараджане з захапленнем гутарылі з "асабовым саставам", дзеці з цікавасцю вывучалі амуніцыю і зброю.



На наступны дзень арганізатары "заказалі" цудоўнае надвор'е. Штурм крэпасці вёўся па ўсіх правілах ваеннага мастацтва. За ім у амфітэатры крэпасных валоў назірала некалькі дзесяткаў тысяч грамадзян і турыстаў.

Польскае тэлебачанне паказала "Мінскі пешы полк" у самай рэйтынгавай праграме. Дзеля захавання ісціны, засведчым: беларусы, сапраўды, былі ў цэнтры ўвагі.

**Мікалай ЛЯБЕДЗІК.**
**Фота аўтара.**

**НА ЗДЫМКАХ: Аляксандр СКРУПІНСКІ, рэктар Гданьскага інстытута культуры і еўрапейскай інтэграцыі (у цэнтры) з асабовым саставам "Мінскага пешага палка"; паляк Выслаў ГРАХОЎСКІ — у жыцці інструктар верхавой язды, а ў гульні — ваяр французскай арміі; французскі генерал у жыцці і ў гульні Лэві РАЙМОНД (ГОЛБЕРТ) нават свайго любімага сабаку назваў "Напалеонам"; літовец Арвідас ПАЧУНАС (у цэнтры) — вялікі гетман Каўнаскага ваенна-гістарычнага клуба; у хвіліны адпачынку; на вайне як на вайне.**



# ЯБЛЫЧНЫ ДОЖДЖ...



Зіму з вітамінамі плануюць забяспечыць для многіх гамяльчан працаўнікі прыгараднага саўгаса "Брылёва". Сёлетні багаты ўраджай яблык дазваляе штодзённа адпраўляць на склад для захоўвання да 5 000 трохлітровых слоікаў натуральнага яблычнага соку. Яго нарыхтоўка ідзе на ўласным перапрацоўчым мінізаводзе, які працуе кругласутачна. Таццяна ЦІМАШЭНКА — зборшчыца яблыкаў.

А яблыкі, якія вырошчваюць у саўгасе "Світанак" Брэсцкага раёна, любяць па ўсёй Беларусі. Тут пладаносяць дрэвы як беларускай, так і замежнай селекцыі. Усяго ў "Світанку" плануюць нарыхтаваць 1 300 тон яблык. На ўборку прыцягнута 120 чалавек, у асноўным гэта сезонныя рабочыя.

БелТА.



## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 39

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ. 3. Гаспадар. 5. Дапамога. 7. Сход. 9. Шафа. 11. Дабрадзей. 14. Тупат. 17. Махры. 18. Цукерка. 19. Вусны. 20. Адказ. 24. Часопіс. 25. Кафля. 26. Лічба. 30. Мастацтва. 32. Друк. 33. Шэпт. 34. Снеданне. 35. Суквецце.

ПА ВЕРТЫКАЛІ. 1. Усход. 2. Водар. 4. Дыван. 6. Павет. 7. Смутак. 8. Падбел. 10. Айчына. 12. Паўрубель. 13. Настаўнік. 15. Будынак. 16. Аксаміт. 21. Заклад. 22. Роспач. 23. Зварот. 27. Палын. 28. Сваяк. 29. Бусел. 31. Шэсце.

КІНОШНЫЯ БАЙКІ Дзмітрыя МІХЛЕЕВА

# ВЫСАКАРОДНЫ ХАХМАЧ Навум ШТУЦІН

Ужо трэці дзень студыя затрымлівала выплату зарплаты. У здымачнай групе рэжысёра Уладзіміра Бычкова панавала вялікая маркота: групе выязджаць у экспедыцыю на здымкі, а зарплаты няма, ці будуць камандзіровачныя — таксама невядома. Юра Аксанчанка займаўся нехаця сваімі асістэнцкімі справамі — званкі, перамовы; у пакой памінутна хто-небудзь заходзіў і пакідаў яго, стаяў перадад'ездны гоман, студыйная мітусня, здавалася б, была звычайнай, як заўсёды, акрамя аднаго: дзень зарплаты быў пазаўчора, а зарплатай і сёння ўсё яшчэ не пахла. І надзеі, што выдадуць, было мала. Быццам будзе, быццам не, а дакладна ніхто не асмельваўся паведамляць. Невядома, навошта, але ўмела наша начальства сваіх супрацоўнікаў на кручку трымаць. Усе, канешне, паціху бурчалі, толькі Навум Штуцін, вядомы маляр-мастак і вялікі хахмач, пасмальваючы нязменную папяроску і перагортваючы тузін ранішніх газет, рабіў выгляд, што зарплата яго не цікавіць. Быццам ён сапраўдны траюрадны ўнук Ротшыльда, якога забыў дзядуля ў нашых пахмурных краях. Хаця ў яго кішэні, як і ў іншых, толькі хіба вош на аркане, якая выгаладалася і рвалася з ланцуга.

Рэжысёр з дырэктарам карціны ў гэты час знаходзіліся ў генеральнага дырэктара кінастудыі, абгаворвалі праблемы экспедыцыі.

Нарэшце Навум дачытаў апошнюю газету, вярнуўся ў наш рэальны свет і цяжка ўздыхнуў. Усё па той жа прычыне. Потым нешта шчоўкнула ў яго адчайнай галаве. Ён падняў трубку, набраў нумар. Пракашляўся і не зусім сваім голасам пачаў размову:

— Алё, кінастудыя? Генеральны дырэктар? Дабрыдзень! З вамі гаворыць намеснік пракурора горада. Так. Пятроў маё прозвішча. Антон Іванавіч. Вось тут у мяне на стале ляжыць цікавы дакумент. Ціка-авы. Адзінаццаць чалавек яго падпісалі. Гэта праўда, што вы трэці дзень затрымліваеце зарплату? Значыць, праўда? Пацвярджаеце дадзены факт? Ай-яй-яй... Як жа так можна ў эпоху развітога сацыялізму,.. напярэдадні светлай будучыні — так пaступаць з рабочым класам! Ну што па партыйнай лініі — гэта не наша кампетэнцыя. Думаю, партыя абароніць сваіх слаўных будаўнікоў камунізму. А што тычыцца артыкула крымінальнага кодэкса... то гэта ўжо па нашай, як гаворыцца, частцы. Вы хоць памятаеце нумар артыкула? Ці нагадаць?

Ні Юра, ні іншыя прысутныя не звярнулі асаблівай увагі на тэлефонны маналог Штуціна. Тое, што Навум ані дня не пражыве, не разыграўшы каго-небудзь, ведалі ўсе і таму і на гэты раз вырашылі, што Штуцін, як заўсёды, "жартуе". Але вось у пакой увaліліся, трымаючыся за жываты, і то нягучна, а то надта гучна рагочучы, рэжысёр Бычкоў і дырэктар карціны Тульман.

— Ой, што мы бачылі, — хваліліся яны ў два галасы і ніяк не маглі прыступіць да расказу, што ж яны ўбачылі. Потым, перабіваючы адзін аднаго, расказалі, як падчас перамоў раптам патэлефанавалі, дырэктар студыі падняў трубку, трохі пагаварыў, потым пачаў бляднець, потым ускочыў на ногі і далей працягваў гутарку па стойцы "смірна". Скончыўшы размову, ён выцер успацелы лоб, разгублена ўсміхаючыся, папрасіў прабачэння перад наведвальнікамі. "Працягнем нашу размову потым, у мяне ўзніклі некаторыя пытанні дзяржаўнага значэння". Ён выклікаў сакратарку і нечакана для яго інтэлігентнасці гаркнуў:

— Галоўбуха! Да мяне! Звыштэрмінова! Звольню!

Калі Бычкоў і Тульман выходзілі ў калідор, міма іх, не бачачы нікога, як магутны лясны кабан-парсюк, у кабінет генеральнага ўляцеў невялічкі, але ўкормлены галоўбух. Праз пяць мінут размовы ён вылецеў зноў і, не змяняючы хуткасці, паімчаўся на вуліцу, у накірунку 32-га нумарнога завода, з галоўбухам якога ён "меў вялікае сяброўства".

Пачуўшы гэтую вясёлую навіну, Юра Аксанчанка здагадаўся, з кім гэта нядаўна Навум Штуцін так інтэлігентна пагутарыў і якая цяпер на кінастудыі пайшла завaруха. Ён падзяліўся сваёй здагадкай з рэжысёрам. Навум, пасмальваючы папяроску, з асалодай прыслухоўваўся да новай легенды, што нараджалася на вачах і якая абяцала стаць адным з самых маляўнічых яго твораў. Але тут незразумела павёў сябе рэжысёр Бычкоў.

— Дык гэта ты! — упёрся ён у маляра. — Што ты сабе дазваляеш! Гэта што табе, жартачкі? Генеральнага дырэктара па стойцы "смірна" паставіць! Ты думаеш табе гэта сыдзе? Не сыдзе, ды яшчэ і на мне адаб'ецца. Усё. Мне надакучылі твае хохмачкі. З-за цябе генеральнага амаль "паралюш" не схапіў... Ён і зараз яшчэ не ачуняў... Я іду, раскажу яму ўсё.

Ён пайшоў да дзвярэй. Навум перастаў шчасліва ўхмыляцца, разгублена азірнуўся навокал, затым пакрочыў за невысокім рэжысёрам.

— Сяргеіч, ну што вы! Я ж проста крыху пажартаваў...

— Пажартаваў... Крыху, — бурчаў Бычкоў. — А з-за гэтых жартачкаў цяпер будзем стаяць на вушах. І ты, і мы.

— Не, Сяргеіч! Не, родны! Лепш я стану на калені!

І Навум Штуцін, народжаны артыстам, але ўвасоблены ў малярстве, бухнуўся на калені перад рэжысёрам.

— Не губі, родны! Не губі! Сям'я, дзеці! Ён жа мяне так любіць, што калі даведаецца, як стаяў па стойцы "смірна" перад маляром, з'есць мяне! Не губі! Прашу цябе!

Сцэна для кінастудыі была звычайная, хаця страсці тут кіпелі зусім шэкспіраўскія. Але ўсе, хто бег па справах, вырашылі, што Бычкоў рэпеціраваў з Навумам невялікі смешны эпізодык. Рэпетыцыя, мусіць, злёгку зацягнулася, таму што міма іх спакойна і салідна вяртаўся з чамаданам грошай з бухгалтэрыі завода № 32 сам Галоўны Бухгалтар. Ён па старой дружбе перахапіў у калегі з багатага нумарнога завода паўмільёна не "зайцоў", не "драўляных", а "тых", што з Леніным, спалохаўшыся санкцый гарадской пракуратуры. І вось, праходзячы міма рэжысёра, які рэпеціраваў з самародным акцёрам, ён крыху паблажліва пацікавіўся:

— І што ж ён у вас просіць?

— Што-што? Зарплаты, канешне, — адказаў яму рэжысёр. — Чаго ж ён можа прасіць на трэці дзень пасля дня палучкі, якую нам не плацяць... Устань, Навум. Май гонар. Тым больш, у мяне ўсё роўна грошай няма.

— Добра, — сказаў, вытрымаўшы паўзу, галоўбух. — Будзе вам зарплата.

— "Уррра!" — хацеў крыкнуць рэжысёр ад усяго сэрца. Але замест гэтага абняў маляра-мастака і шапнуў на вуха: "Дзякуй, гадзіна!" — "Служу роднаму калектыву", — з палёгкай шапнуў яму ў адказ Навум.

Астатак працоўнага дня праляцеў непрыкметна ў чаканні ўжо дакладна абяцанай зарплаты. У шаснаццаць гадзін усе атрымалі тое, што зарабілі. І ніхто да пары да часу, не ведаў, што гэта здарылася дзякуючы чарговай "хохме" Навума.

## КРЫЖАВАНКА

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ. 3. Невялікая аповесць, апавяданне. 5. Сукупнасць літар, размешчаных ва ўстаноўленым парадку. 10. Лагер, месца стаянкі. 11. Прафесіянальны паляўнічы. 12. У грэчаскай міфалогіі: істота з хвастом, казлінымі рагамі, нагамі і барадой, спадарожнік Бога віна і весялосці. 13. Салёная вада з вострымі прыправамі для засолкі харчовых прадуктаў. 14. Рамка, асада, у якую ўстаўлена што-небудзь. 17. Адварот на канцы рукава. 21. Вялікі гурт авечак. 22. Калючая халодная зброя з доўгім і гнуткім чатырохгранным клінком. 23. Безматорны лятальны апарат у выглядзе самалёта. 24. Агароджанае месца ў свірне. 25. У машыне: частка механізма для перадачы руху на вядучыя калёсы. 28. У вершы: аб'яднанне некалькіх радкоў, звязаных рыфмамі. 30. Орган дзяржаўнага кіравання з выбарных або прызначаных асоб. 31. Металічная пласцінка з дзіркамі, якая служыць для раздраблення чаго-небудзь. 33. Музычны твор ці асобная партыя, прызначаная для выканання адным музыкантам, спеваком. 34. Забітае ў грунт бервяно, слуп, якія служаць апорай у розных збудаваннях. 35. Свавольнае безразважнае дзіця. 36. Ашуканец з мэтай нажывы, шальмоўшчык, жулік.

ПА ВЕРТЫКАЛІ. 1. Грошы, якія выдаюцца папярэдне ў лік заработнай платы. 2. Месца, дзе звязаны канцы вяроўкі, ніткі. 3. Гурт людзей. 4. Накладная фігурная планка вакол дзвярнога ці аконнага праёма. 6. Дадатковы тэкст, які друкуецца ў нізе старонкі, асобна ад асноўнага тэксту. 7. Музычны твор або яго частка ў хуткім, ажыўленым тэмпе. 8. Трата, расходаванне чаго-небудзь без патрэбы, без карысці. 9. Дзеянне або сукупнасць дзеянняў, якія праводзяцца для дасягнення пэўнай мэты. 14. Падатак грашамі або прадуктамі, які плацілі прыгонныя сяляне памешчыку. 15. Труба канічнай формы (для ўзмацнення гуку). 16. Ахова, каравул. 18. Спектакль з танцаў і мімічных рухаў, якія суправаджаюцца музыкай. 19. Выгнутае або ўвагнутае аптычнае шкло. 20. Куча снегу, намеценая ветрам. 26. Самаўпэўненасць, саманадзейнасць у размове, у паводзінах. 27. Пра тое, што ідзе, навальваецца магутнай масай, сілай. 28. Згуба, урон, прапажа. 29. Скрынка ці чахол, куды кладзецца якая-небудзь рэч, каб захаваць яе ад псавання або пашкоджання. 30. Цэгласырэц з сумесі гліны, гною і сечанай саломы. 32. Даўней: гнеў, няміласць цара да каго-небудзь, пакаранне таго, хто трапіў у няміласць.



Склала Ірына БЕКІШ.

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.
Спецыяльныя карэспандэнты Яўген КАЗЮЛЯ, Алесь МЯСНІКОЎ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 2538.
Падпісана да друку 9.10.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).